№1(49)
Студзень 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"



Васіль ЛЯВОНАЎ у зале суда.

## Чатыры гады калоніі — за гуркі і памідоры...

***14 студзеня быў вынесены прысуд па крымінальнай справе Васіля Лявонава. Былы міністр сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь асуджаны на 4 гады зьняволеньня ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці. Прысуд канчатковы, уступіў у сілу адразу пасьля агалошваньня і абскарджваньню не падлягае. Бо разгляд справы адбываўся ў вышэйшай судовай інстанцыі краіны — Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь.***

Пракурор патрабаваў вынесьці прысуд у 8 гадоў зьняволеньня. Аднак суд з чатырох артыкулаў, на падставе якіх рыхтавалася абвінаваўчае заключэньне, пакінуў толькі два: атрыманьне хабару (арт. 169 КК РБ) і злоўжываньне службовым становішчам (арт.91ч.1КК РБ). Гэта азначае, што В.Лявонава асудзілі за тое, што ён нібыта атрымліваў з калгасу "Расьсьвет" (старшыня яго — двойчы Герой Сацыялістычнай Працы В.Старавойтаў — быў асуджаны раней) прадукты харчаваньня (мяса, кілбасу, памідоры, гуркі...) і мэблю (два ложкі, два часопісныя столікі, восем крэслаў і восем зэдлікаў), а за гэта нібыта лабіраваў інтарэсы "Расьсьвету", садзейнічаў у атрыманьні калгасам 30-мільярднага крэдыту для закупкі збожжа... Абвінавачаньне грунтавалася на сьведчаньнях В. Старавойтава і ягонага намесьніка А. Яўстратава, якія былі дадзеныя імі на папярэднім сьледзтве па іх уласных крымінальных справах. Дарэчы, гэтыя сьведкі адмовіліся даваць паказаньні на судзе, і на працэсе проста было зачытана тое, што яны засьведчылі раней. Астатнія абвінавачаньні, вынесеныя на суд, — пасярэдніцтва ў перадачы хабару (арт 169.1 КК РБ) і незаконнае захоўваньне зброі (арт. 213 КК РБ) былі зьнятыя. І зусім не згадвалася вылучанае А.Лукашэнкам адразу пасьля арышту В.Лявонава абвінавачаньне ў забойстве асабістага сябра прэзідэнта Яўгена Мікалуцкага... Такім чынам, плён двухгадовай працы сьледчай брыгады, якая кантралявалася з самых вярхоў, аказаўся мізэрным, што і пацьвердзіў суд.

У сваім апошнім слове Васіль Лявонаў сказаў: "Ад суда нічога не чакаю і нічога не прашу. Больш за тое, спачуваю вам, таму што на вас прыпаў выбар прыняць незаконнае рашэньне і асудзіць мяне. Я невінаваты..."

*(Працяг на стар. 2)*

## Хроніка

***22 сьнежня 1999 г.*** **назіральнік ПЦ "Вясна" Тацяна Колышава атрымала адказ на сваю скаргу ад старшыні суда Савецкага раёну г. Мінску. Нагадаем, што 9 сьнежня падчас разгляду адміністратыўнай справы С.Адмовіча (удзельніка акцыі супраць падпісаньня дамовы аб Саюзе Расіі і Беларусі) назіральніцу выдалілі з залы судовых паседжаньняў. У адказе старшыні Савецкага суда сказана: "Па Вашай скарзе ад 9.12. 1999 г. судом Савецкага раёну г.Мінску праведзеная службовая праверка, у ходзе якой устаноўлена, што 9 сьнежня 1999 г. адміністратыўная справа ў адносінах да С.Г.Адамовіча не разглядалася. Пасьля вывучэньня судзьдзёй прадстаўленых адміністратыўнага пратаколу і дададзеных да яго дакументаў, а таксама ў сувязі з просьбай самога Адамовіча С.Г. забясьпечыць удзел адваката, разгляд справы быў прызначаны судзьдзёй на 13.12. 1999 г., у сувязі з чым Вашыя правы прысутнічаць у якасьці назіральніка на судовым працэсе не былі парушаныя. Даць ацэнку правамоцнасьці дзеяньняў супрацоўнікаў міліцыі і прыняць у адносінах да іх адпаведныя меры не ўяўляецца магчымым, таму што супрацоўнікі міліцыі не зьяўляюцца работнікамі судовай сістэмы і не знаходзяцца ў падпарадкаваньні судовым органам".**

***27 і 28 сьнежня*** **ў мінскім гарадзкім судзе былі перанесеныя судовыя паседжаньні па справе Яўгена Асінскага, які падчас шэсьця 27 ліпеня (Дзень Незалежнасьці) нібыта ўдарыў супрацоўніка міліцыі. Судовыя паседжаньні былі перанесеныя па прычыне таго, што ў суд не зьявіўся пацярпелы Кунцэвіч, а таксама сьведкі — супрацоўнікі міліцыі.**

*(Працяг на стар.6)*

# Антысемітызм – дзяржаўная палітыка ў Беларусі

## Заява Праваабарончага Цэнтру «Вясна»

19 сьнежня ў 17.30 у горадзе Віцебску каля свайго дому быў зьбіты Барыс Хананавіч Хамайда. Б. Хамайда зьяўляецца Ганаровым сябрам Праваабарончага Цэнтру «Вясна», галоўным рэдактарам незалежнай газеты «Выбар», лаўрэатам прэміі Алеся Адамовіча за актыўную бескампрамісную палітычную дзейнасьць па абароне дэмакратыі і правоў чалавека.

За тыдзень да здарэньня Б.Хамайду патэлефанаваў дадому капітан КДБ А.Лебедзеў і прапанаваў яму прыйсьці на допыт у КДБ. Б.Хамайда адказаў, што па тэлефонным званку на допыт ня пойдзе. На гэта капітан КДБ сказаў: калі так, дык тады яму будзе горш.

Пагроза капітана КДБ спраўдзілася праз тыдзень. Калі 19 сьнежня ў 17.30 Б.Хамайда падыходзіў да свайго дому, яму насустрач выйшлі 6 чалавек, якія сталі жорстка зьбіваць яго. Злачынцы зьбілі Хамайду нагамі, забралі кейс з дакументамі і зьніклі.

Злачынцаў міліцыя, натуральна, не знайшла. Гэта ня першы выпадак зьбіцця грамадзянаў яўрэйскай нацыянальнасьці за актыўны ўдзел у грамадзкай і праваабарончай дзейнасьці ў Беларусі.

Дастаткова ўзгадаць, як у 1997 г. быў жорстка зьбіты рэжысёр Юры Хашчавацкі, які зьняў фільм пра А.Лукашэнку «Звычайны прэзідэнт». У пачатку сьнежня 1999 г. быў зьбіты Леанід Міндлін, які зьняў фільм «Страх» пра дыктатуру ў Беларусі.

Выклікае зьдзіўленьне, што, нягледзячы на ўсе прыведзеныя факты, А.Лукашэнку 6.01.2000 г. прымаюць у дзяржаве Ізраіль на афіцыйным узроўні.

*г. Мінск,*
*4 студзеня 2000 г.*

# Наперадзе «Гарачая вясна-2000»

Беларускія судовыя ўлады 2000 год распачалі адразу з некалькіх крымінальных справаў, якія маюць відавочны палітычны характар. У першай палове студзеня на чатыры гады зьняволеньня ў калоніі строгага рэжыму быў асуджаны былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў. Затым быў вынесены прысуд Яўгену Асінскаму, абвінавачанаму ў хуліганскіх дзеяньнях супраць супрацоўнікаў міліцыі 27 ліпеня мінулага году падчас шэсьця апазіцыі. А на 19 студзеня прызначаны разгляд справы былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра, арыштаванага падчас праведзеных летась апазіцыяй выбараў прэзідэнта Беларусі, на якіх ён быў кандыдатам у прэзідэнты. Абвінавачаньні, вылучаныя супраць М.Чыгіра "гаспадарча-эканамічныя", аднак ніхто не сумняваецца ў іх палітычным заказе.

Такім чынам, пачатак году атрымаўся бурным. Улады яскрава засьведчылі, што з апанентамі рэжыму яны маюць намер і надалей змагацца жорстка і рашуча.

Між тым, 2000 год, па задуме міжнародных арганізацыяў, якія сочаць за падзеямі ў Беларусі, павінен быў стаць годам прымірэньня і свабодных, дэмакратычных выбараў у парламент. Дзеля гэтага на працягу мінулага году рабіліся спробы арганізаваць перамовы паміж апазіцыяй і ўладамі. Аднак з такой цяжкасьцю наладжаныя ўзаемаадносіны былі ў аднабаковым парадку разарваныя А.Лукашэнкам, які ліквідаваў папярэднія дамоўленасьці, ня даў мажлівасьці апазіцыі атрымаць доступ да дзяржаўных СМІ і звольніў кіраўніка ўрадавай дэлегацыі на перамовах М.Сазонава.


"Гарачая" восень-1999.

Чакалася, што на пачатку году А.Лукашэнка прызначыць новага кіраўніка сваёй дэлегацыі. Аднак гэтага не адбылося. Больш за тое, улады рыхтуюцца да выбараў парламенту паводле закону, праект якога яшчэ летась быў прызнаны міжнароднымі арганізацыямі недэмакратычным.

Парламенцкая асамблея АБСЕ, занепакоеная разьвіцьцём сітуацыі ў Беларусі, на пасяджэньні Пастаяннага камітэту Парламенцкай асамблеі АБСЕ, якое адбылося 13-14 студзеня ў Вене, разгледзела "беларускае пытаньне". Быў прапанаваны праект рэзалюцыі Пастаяннага камітэту ПА АБСЕ па Беларусі, у якім гаворыцца: Пастаянны камітэт ПА АБСЕ "*лічыць*, што выпрацоўваемы выбарчы закон павінен быць узгоднены шляхам перамоваў паміж апазіцыяй і ўрадам і ў адпаведнасьці з міжнароднымі стандартамі (папраўка Польшчы) з тым, каб праведзеныя ў выніку выбары былі б прызнаныя... *заклікае* да таго, каб меры па ўмацаваньні даверу цалкам выконваліся ўрадам Беларусі, уключаючы падпісаную дамову аб прадастаўленьні апазіцыі доступу да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі... *выказвае шкадаваньне* з прычыны часовых затрымак, якія ўзмацняюць напружанасьць і зьмяншаюць давер да палітычнай сістэмы...". Рэзалюцыю падтрымалі 49 краінаў Эўропы. Супраць выступілі толькі Расія і залежныя ад яе Казахстан, Кыргызія ды Арменія...

Дэмакратычная апазіцыя, між тым, распачала падрыхтоўку да барацьбы за захаваньне правоў чалавека ў Беларусі. 12 студзеня Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў, у якую ўваходзяць прадстаўнікі буйнейшых апазіцыйных партыяў і рухаў, прыняла рашэньне аб правядзеньні серыі акцыяў пад назовам "Гарачая вясна-2000". Мэтаю іх, па словах лідэра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслава Багданкевіча, стане падтрымка перамоўнага працэсу, арганізаванага пад эгідай АБСЕ, і абарона суверэнітэту і беларускай дзяржаўнасьці.

Мяркуецца, што "Гарачая вясна-2000" будзе складацца з чатырох акцыяў пратэсту, першая з якіх адбудзецца ўжо ў лютым.

# Чатыры гады калоніі – за гуркі і памідоры ...

*(Пачатак на стар.1)*

Пра адкрыты палітычны заказ справы з боку найвышэйшых дзяржаўных органаў сьведчыць шмат што. І тое, з якой помпай яна распачыналася — згадаем толькі, якім чынам быў арыштаваны міністр В.Лявонаў: у сваім кабінеце з трансьляцыяй таго, як яму на рукі надзяваліся кайданкі, на ўсю краіну. І названая ўжо заява Лукашэнкі... І нязгода В.Лявонава з метадамі кіраўніцтва эканомікай краіны, і ягоная рэфарматарская дзейнасьць, і адмаўленьне ад удзелу ў правядзеньні рэферэндуму 1996 году... І спроба на прыкладзе В.Лявонава прыпалохаць "вертыкальшчыкаў", паказаць ім, што пры жаданьні ў кожнага кіраўніка можна знайсьці "грахі", якія "пацягнуць" на крымінальную справу.

Аднак гэтага ва ўладаў не атрымалася. Выйшаў фарс. Пра гэта казалі многія з прысутных на працэсе. Былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, які адпушчаны з-пад варты пад падпіску аб нявыезьдзе і чакае суда, сумна паіранізаваў, што нездарма пры вынясеньні прысуду слова "памідоры" прагучала ня менш за сто разоў. А карэспандэнт "Белорусской газеты" свой рэпартаж з залы суда назваў так: "Ён еў кілбасу..."

"Права на волю" мяркуе ў бліжэйшых нумарах зьвярнуцца да "справы Лявонава", каб больш падрабязна пазнаёміць чытачоў з тым, што і як адбылося.

**Наш кар.**

# Звычайная «практыка»...

## Адным з першых асуджаных у 2000-м годзе па тыповай палітычнай крымінальнай справе стаў 21-гадовы мінчук Яўген Асінскі.

Прадметам разьбіральніцтва суда пад старшынствам судзьдзі Валерыя Камісарава сталі падзеі амаль паўгадовае даўніны – акцыя, праведзеная Сацыял-дэмакратычнай партыяй «Народная Грамада», у Дзень Незалежнасьці 27 ліпеня мінулага году. Нагадаем, што ў той дзень удзельнікаў шэсьця, якія збочылі з дазволенага ўладамі маршруту, сустрэлі некалькі кардонаў міліцыі. Невялікая сутычка, што адбылася пры першай такой сустрэчы – на скрыжаваньні мінскіх вуліцаў Купалы і Інтэрнацыянальнай – ня можа ісьці ні ў якое параўнаньне з наладжанымі міліцыянтамі вулічнымі пабоішчамі 1996-97 гадоў альбо тым, што адбылося летась17 кастрычніка. Тым ня менш, улады знайшлі каго засудзіць. Яўген Асінскі, які таксама ішоў у калоне дэманстрантаў, быў адным з першых сярод некалькіх дзясяткаў затрыманых 27 ліпеня і адзіным, каго пасадзілі ў сьледчы ізалятар. Хлопца зьбілі, абвінавацілі ў нападзе на міліцыянта і ўзбудзілі супраць яго крымінальную справу па двух артыкулах Крымінальнага кодэксу: 202 ч. 2 (злоснае хуліганства) і 186. 3 (актыўны ўдзел у масавых акцыях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак).

Напачатку па арт. 186. 3 разам з Я.Асінскім быў абвінавачаны і арганізатар шэсьця – лідэр БСДП «Народная Грамада» Мікола Статкевіч. Аднак у працэсе сьледзтва «справа 27 ліпеня» была падзеленая на дзьве асобныя. М.Статкевіч, праўда, патрапіў у СІЗА пазьней – 17 кастрычніка, але яго выпусьцілі пад падпіску аб нявыезьдзе з-за шырокага міжнароднага рэзанансу тых падзеяў...

Прызначаны на 27 сьнежня 1999 году, судовы працэс па справе Я.Асінскага некалькі дзён ніяк ня мог распачацца. На першае паседжаньне, нягледзячы на паўтарагадзіннае чаканьне прысутных у зале, так і не зьявіўся пацярпелы міліцыянт Кунцэвіч. Што наводзіла на думку ня столькі пра сьвяткаваньне Калядаў ды Новага году, колькі на пытаньне, наколькі ён схільны сам сябе лічыць пацярпелым. А вось сьведкі – супрацоўнікі МУС з зайздроснай упартасьцю праігнаравалі ажно тры судовыя паседжаньні : 27 і 28 сьнежня і 10 студзеня.

Яшчэ дэталь: Яўгена Асінскага абвінавачваў той самы пракурор (Сяргей Чырын) і судзіў той самы судзьдзя (Валерый Камісараў), што і ў траўні-чэрвені мінулага году – намесьніка старшыні Маладога Фронту Яўгена Скочку. У прадстаўнікоў айчыннай Феміды, такім чынам, рука набіта і сьпецыялізацыя выпрацавана.

Абаронцам падсуднага на працэсе выступала адвакатка Натальля Тарасюк.

Яўген Асінскі трымаўся на судзе вельмі спакойна. Ён часткова прызнаў сваю віну па артыкуле 186. 3 і не прызнаў – па 201-м артыкуле. Падсудны патлумачыў, што сапраўды замахнуўся на міліцыянта ў момант сутычкі дэманстрантаў і міліцыі, але зрабіў гэта таму, што міліцыянт падняў руку з дубінкаю. «Я ня ставіў мэты нанесьці шкоду гэтаму супрацоўніку міліцыі, а хацеў прадухіліць з яго боку ўдар дубінкай кагосьці з людзей, што былі побач», — заявіў суду Яўген. Падобна, хлопец не хацеў скардзіцца на тое, што трохі пазьней некалькі аператыўнікаў жорстка зьбілі яго пры затрыманьні. Аднак гэты факт ужо фігураваў у матэрыялах справы. Адказваючы на пытаньне адваката, Яўген Асінскі распавёў, што яго затрымалі ў метро на станцыі «Плошча Перамогі» чацьвёра міліцыянтаў, завялі ў нейкае службовае памяшканьне і там «трохі пабілі па нагах і па нырках» (нанесьлі 5-8 удараў па розных частках цела). Паколькі затрыманы не аказаў міліцыянтам ніякога супраціву, можна яшчэ раз пераканацца ў тым, што падобныя "практыкаваньні" нашай «роднай» міліцыі над затрыманымі ёсьць звычайная справа.



Яўген АСІНСКІ.

Пацярпелы Кунцэвіч, па ягоных словах, ня бачыў, хто менавіта ўдарыў яго ў сьпіну падчас сутычкі з дэманстрантамі. Але нейкім чынам, азірнуўшыся, заўважыў маладога чалавека, які адбягаў у глыб натоўпу. Вярнуўшыся у РАУС, пацярпелы ня скардзіўся начальству, што яго нехта ўдарыў. "Але мне паведамілі, што чалавек, які мяне ўдарыў, ужо затрыманы", — сказаў Кунцэвіч. Дубінку ж у руках, сьцьвярджае пацярпелы, у момант удару ён не трымаў: нібыта «зьверху» была дадзеная ўстаноўка нікога ня біць... У той жа час міліцыянт прызнае, што ён стаяў ня ў першым ланцугу кардону (праз яго дэманстранты адразу ж прайшлі на вуліцу Інтэрнацыянальную), а ў другім – як я сама памятаю, больш шчыльным, больш моцным, кінутым «на падмацаваньне». І вось тут мы наблізіліся да пытаньня, якое, як потым слушна зазначыць у сваім выступе абаронца Н. Тарасюк, так і засталося нявысьветленым. Ці трымаў ланцуг №2 у руках дубінкі, якія, нагадаю, і сталі прычынай дзеяньняў Яўгена Асінскага?

Па словах пацярпелага Кунцэвіча – не, не трымаў, дубінкі віселі ў яго і калегаў на поясе. Аднак прынамсі двое сьведкаў сказалі суду іншае: студэнт Сяргей Барсток – што міліцыянты ў 2-м шэрагу трымалі гумавыя палкі гарызантальна аберуч і выціскалі імі людзей на вуліцу Купалы; калега пацярпелага сьведка Д. Лявіцкі – што міліцыянты «спрабавалі дубінкамі бараніцца». Праўда, ён ня змог удакладніць, якім менавіта чынам. Цьмяная надзея, што яснасьць у пытаньне ўнясуць прадстаўленыя на працэс відэаздымкі, не апраўдалася: невядомыя эксьперты ГУУС Мінгарвыканкаму зманціравалі стужку так, што на ёй фігуравала не два, а адзін ланцуг міліцыянтаў на вул. Інтэрнацыянальнай. Эксьперты – народ, вядома, вопытны... Ды ці не таму другі міліцэйскі ланцуг «схавалі» ад вачэй суда і грамадзкасьці, што Яўген Асінскі казаў праўду?

Аператар ГУУС Аляксандр Корф на судзе заявіў, што «відэасьведчаньне» зманціраванае з матэрыялаў здымкаў аж трох відэакамераў. Сьведку Корфу ў гэтым сюжэце належыць кадр, што стаў ключавым для абвінавачаньня Асінскага – на гэтым кадры рух, што быў названы ўдарам па Кунцэвічу. Але на самай справе прагляд кадру, нават у запаволеным рэжыме, не пакідае настолькі адназначнага ўражаньня. А пацярпелага няма на здымках зусім. Каб паверыць аператару-эксьперту на слова, трэба ня ведаць ні сёньняшняй палітычнай сітуацыі, ні метадаў працы міліцыі. Усё гэта ўжо неаднаразова паўтаралася на іншых судовых працэсах супраць апазіцыі.

Сьведка Корф лічыць: «удар быў загадзя падрыхтаваны, бо аператар якраз адвярнуў убок камеру. Але ён (Асінскі) не заўважыў, што трохі далей стаіць яшчэ адзін аператар...» Меўся на ўвазе сам спадар Корф, які і зьняў «ключавы» кадр. Пасьля таго ён «працаваў па тварах», шукаючы ў натоўпе менавіта Яўгена Асінскага, а суправаджаючы яго «сувязіст» перадаў па рацыі прыкметы хлопца. З паказаньняў сьведкі Аляксандра Гулянкова бачна, што прыкметы патрапілі да супрацоўніка міліцыі Шаршуна. Гулянкоў тлумачыць, чаму, заўважыўшы неўзабаве Асінскага, ён з калегамі ня мелі магчымасьці яго адразу затрымаць: бо «апазіцыянеры гэта зразумелі б няправільна». Пра зьбіцьцё затрыманага ўжо ў метро на плошчы Перамогі Гулянкоў выказаўся коратка: «Поўны абсурд», – што цалкам зразумела, бо ён сам і рабіў тое затрыманьне...

Увогуле, сьведкі з міліцыі зрабілі ўсё, каб складалася ўражаньне, што падсудны ішоў на акцыю з мэтай пабіць якога-небудзь міліцыята і адразу ж уцячы. Але яны – гераічна заступіліся

(Працяг на стар. 7)

# Быць грамадзянінам...

**Маналог мастака Алеся ПУШКІНА, які за перформанс, праведзены ў дзень сканчэньня легітымнасьці прэзідэнта РБ А.Лукашэнкі, атрымаў два гады зьняволеньня з адтэрміноўкаю на два гады.**

У мяне звычайная біяграфія... Мае прадзеды, дзяды, бацькі жывуць у мястэчку Бобр. І я там нарадзіўся, вучыўся ў мясцовай школе, любіў маляваць марскіх Лятучых Галандцаў, пірацкія караблі з "вясёлым Роджэрамі", зімовыя краявіды з санкамі — конь, санкі, вечар, вясковая хата, у вакне гарыць сьвятло. Бацька прывёз мяне ў Мінск, паступаць ў Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя Іосіфа Ахрэмчыка.... Цяпер называецца Рэспубліканскім коледжам мастацтва. Я здаў экзамены і паступіў.

## Пра першы бунт.

1983 год, 11 клас школы-інтэрнату. Мы, два 11-я класы, арганізавалі галадоўку пратэсту супраць самаўпраўства адміністрацыі. Напісалі петыцыю з шэрагам патрабаваньняў: дазволіць працаваць у майстэрні да 11 гадзінаў, забараняць выхавацелям абражаць нас дрэннымі словамі накшталт "карова", "дурань", каб супрацоўнікі сталовай захоўвалі санітарныя нормы і правілы гігіены ды інш. З намі былі яшчэ 8-ыя і 9-ыя класы. Уяўляеце, сьняданак — малодшыя класы паелі, старэйшых няма. Чакаюць — няма. Абед — таксама няма. Вячэра — тое самае. На наступны дзень раніцай зьбіраюць нас у актавай зале. Новы дырэктар вельмі баяўся, усё казаў: "Ну, якія ў вас праблемы? Я толькі нядаўна прыехаў, я ня ў курсе..." Наперад выйшла Іра Шкіндзерава (яе бацька быў ветэран вайны, заслужаны аршанскі чыгуначнік) і зачытала з трыбуны сьпіс патрабаваньняў. Нам паабяцалі сабраць педагагічны савет і прыняць рашэньне. Мы пытаем: "А нам потым скажаце?" Нам адказалі: "Так, вядома!"

Мы з радасьцю пайшлі есьці. А потым была выкарыстаная такая тактыка — працавалі з кожным паасобку, казалі: "Вы ж выпускны клас, вам трэба паступаць! Мы вам у характарыстыках напішам: калі вам патрэбны студэнт, які будзе бунтаваць, дык прымайце яго ў інстытут". Тут усе спалохаліся, дзяўчаты пачалі плакаць: "Што мы нарабілі! Цяпер мы ўсе не паступім у інстытут! Што рабіць, як жыць?" Але атрымалася так, што наш першы бунт супраць самаўпраўства адміністрацыі сышоў нам з рук.

## Пра вайсковыя ўрокі

Я скончыў школу-інтэрнат і адразу паступіў у Тэатральна-мастацкі інстытут. Характарыстыка ў мяне была дужа цікавая: "Мае свой упарты характар". А тады была такая завядзёнка — першы курс адвучышся — забіраюць у войска. І мяне забралі служыць. Вучэбка, верталётны полк, механік па ўзбраеньні — чапляў бомбы, ракеты, рыхтаваў верталёты да вылету. А я ж быў пацыфістам. Псіхолаг у ваенкамаце казаў: "У яго ўстаноўка супраць арміі". Але пасьля вучэбкі я патрапіў на вайну ў Афганістан — у паўночна-усходнюю зону. У Афганістане я вёў дзёньнік. Вядома ж, па-беларуску. Там былі ў асноўным рускія — яны не разумелі, што я там пішу. Але аднойчы я трапіў на гаўптвахту. А начальнікам гаўптвахты быў прапаршчык Бельскі — беларус. Ён забраў мой дзёньнік і пачаў чытаць. Прачытаў, усё зразумеў і даклаў начальніку штабу палка, масквічу маёру Кулікову. Начальнік штабу мяне выклікае: "Радавы Пушкін, у вашым дзёньніку ўтрымліваюцца думкі, якія супярэчаць палітыцы партыі і нашай дзяржавы ў гэтай краіне. Атрымайце яшчэ дзесяць сутак арышту!" А ў сваім дзёньніку я пісаў тое, што бачыў. Едзем мы па Кабуле, старыя жанчыны прыпадымаюць чадру і плююць у наш бок. Пасьля 10 гадзінаў вечару машыны сьпяшаліся хутчэй вярнуцца на свае базы, бо распачыналася страляніна — ніхто ня ведаў хто і адкуль страляе. Рускія едуць на машыне каля афганскае крамы, дзе на шастку вісяць футры і дублёнкі, і на хаду хапаюць усё гэта — афганцы перасталі вывешваць. Прапаршчыкаў афганцы называлі "цап-царап". Вось такія бытавыя рэчы я і запісваў у свой дзёньнік.

## Пра жыцьцёвыя прынцыпы.

Пасьля Афганістану я ўжо быў зусім іншым чалавекам — разьняволеным...

Першыя пяць сутак я адсядзеў за заклікі да ўдзелу ў Дзядах-88. Стаяў ля ўваходу ў інстытут і раздаваў машынапісныя улёткі. Мяне адсюль і забралі. На Дзяды я ня трапіў — сеў на "суткі". Я вырашыў ня проста пратэставаць, а выказваць свой пратэст у мастацкай форме.




Перформанс А.Пушкіна.

Я вырашыў зрабіць ў інстытуце выставу, прысьвечаную БНР (Беларускай Народнай Рэспубліцы). Выставу забаранілі. Нельга? Тады я вырашыў зрабіць яе на вуліцы! У філасофскім сэнсе БНР да гэтага часу застаецца непераўзыдзеным узорам нашае дзяржавы. Гэта вышэйшы пік. Хоць БССР і была прадстаўленая ў ААН.

Я зрабіў плакаты, папрасіў сяброў — надзьмулі шары, зрабілі бусла, узялі плакаты і рушылі... Тут нам перагарадзілі шлях міліцыянты.

Пасьля акцыі я трапіў ў Савецкі РАУС, з яго — у сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік.

За ўсе гады міліцыянты мяне ні разу ня білі. Усе называлі Аляксандр Мікалаевіч. Можа, гэта павага да прозьвішча Пушкін, можа, карэктнасьць да мастака? Гэта прафесійныя іх правілы — заломваць рукі і цягнуць, але ні ў "варанку", ні ў камерах мяне ня білі: "Арыштаваны, зайдзіце, выйдзіце..." Вось і ўсё. Але пасьля падзеяў 25 сакавіка 1989 г. я вельмі сур'ёзна падумаў пра тое, што мне ніколі ня варта больш правакаваць, весьці за сабой іншых людзей, у якіх сваё жыцьцё — вучоба, жонка, праца, дзеці... Тады я даў сабе зарок на ўсё жыцьцё: рабіць ўсё ў адзіночку. У мяне цяпер прынцып — не цягнуць за сабой іншых. Цяпер я раблю пратэсты адзін.

## Пра фрэскі.

З 1992 па 1996 гады была праца над магілёўскімі фрэскамі ў касьцёле сьвятога Станіслава. Вельмі цяжкая праца — рэстаўрацыя старога жывапісу, адшкрэбваньне фарбы, прамыўка сьпіртам, пламбаваньне выбоінаў. Беларускай Каталіцкай Грамадой было адрэстаўравана каля двух з паловай тысячаў метраў фрэсак. Я таксама напісаў у стылі барочнага жывапісу некалькі сюжэтаў фрэсак: Сьвяты Антоній Падуанскі (самая мая лепшая фрэска ў Магілёве), сьвяты Тадэвуш — памочнік у справах безнадзейных, сьвятая Цэцылія — патронка касьцёльнай музыкі і сьпеваў і плафон-глорыя кардыналу Сьвёнтаку (тады якраз Папа Рымскі даў яму пачэснае званьне кардынала) — кардынал прымае з рук Папы цыяру, а вакол душы ўсіх памерлых католікаў. Дарэчы, у гэтым касьцёле вянчаўся старшыня БНФ Зянон Пазьняк, і там мы яго і намалявалі — на адной з катэдраў разам з іншымі выбітнымі дзеячамі беларускага Адраджэньня, выявамі дзяржаўнасьці (Канстытуцыя 1994 г., бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня). Пасьля гэтую фрэску завесілі велічэзнай прасьцінай і напісалі "ідзе рэстаўрацыя", бо З.Пазьняк якраз тады эміграваў. Фрэска была завешаная паўтары гады, цяпер можна яе паглядзець.

Жыць, будавацца і мець сям'ю вырашыў толькі на радзіме, у Бабры. Вельмі прыемна, вельмі чыста жыць на прыродзе. Вось так: жыць, пісаць карціны, афармляць цэрквы ды касьцёлы і быць грамадзянінам.

## Пра перформанс 21 ліпеня.

Цяпер пра 21 ліпеня — дзень, калі скончыліся легітымныя паўнамоцтвы Лукашэнкі... Я ведаў, што Лукашэнка будзе нацэлены на ўзурпатарства, г.зн. пасьля 21, абапіраючыся на Канстытуцыю 1996 г. рабіць выгляд, што нічога ня здарылася. Я прыдумаў вельмі характэрную і нацыянальную рэч: "Куды ты нас пасадзіў, туды і мы цябе пасадзім". Вельмі доўга думаў: што магло б характарызаваць Беларусь як аграрны прыдатак (памятаеце сьвінакомлексы — палітыку Сьлюнькова). І я прыдумаў вобраз вазка з гноем! Чырвоны яркі савецкі вазок, гной, навязаная ім атрыбутыка — вось ягоны ўнёсак у гісторыю. А мог бы быць як Усяслаў Чарадзей, мог бы зацьміць першых прэзідэнтаў БНР, калі б зрабіў рэальную магутную Беларусь, мог пачаць новую гісторыю Беларусі. БНР бы тады лічылі першым кавалкам гліны, з якога вылепілі дзяржаўнасьць. Апрача мяне, пра гэты перформанс ведалі толькі два чалавекі. Мяне папярэдзілі: "Ёсьць адна рэч непрыемная — могуць страляць па табе". Я пайшоў, пракансультаваўся з чалавекам, які служыў у дывізіі Дзяржынскага, і з ваенным псіхолагам. Я ім прыкладна абмаляваў сітуацыю. Сказаў: "Уявіце ахоўваемы аб'ект. Раптам да яго хуценька коціцца вазок, і чалавек, сьпяшаючыся нешта зрабіць, прэ яго перад сабою... Вашыя дзеяньні, як паставога?" Мне адказалі: "Першая думка — дурань, другая — раптам там тол, раптам гэта камікадзе, які хоча зрабіць выбух? Рэакцыя — папераджальны стрэл, потым страляць па нагах, але, можа, і забойства. Таму што чалавек, які ахоўвае важны аб'ект, ён не падумае, што ў вазку гной". Самая вялікая небясьпека для мяне была, што вартавы будзе халоднакроўным і пачне страляць. Калі я пачаў каціць вазок, карэспандэнты пачалі здымаць (я сказаў пра свой намер толькі аднаму чалавеку, які праявіў журналісцкую салідарнасьць, але ня выдаў мяне загадзя). Міліцыянер аказаўся вельмі малады, ён разгубіўся, выбег мне насустрач і пачаў мяне спыняць. Я зрабіў усё што задумаў — высыпаў гной, уторкнуў вілы. Мяне адразу забралі. У мяне быў вельмі добры настрой. Біяграфічныя дадзеныя я ня стаў называць, сказаў: "Я чалавек з народу. Пачакаем, пройдзе дзень, два, тры — можа я назаву сябе". Яны ўразіліся і праз кожныя 15 хвілінаў паўтаралі: "Тавары, хто ты!" У мяне не было ніякіх дакументаў, толькі 100 тысячаў рублёў на зваротны білет да Бабра. Я быў чыста апрануты, паголены. Калі прыйшоў начальнік аховы будынку адміністрацыі прэзідэнта, я яму сказаў: "У мяне добры настрой, воля Бога была, каб я зрабіў гэтую рэч. У Бога мы верым, таму і пратэст у нас такі хрысьціянскі — ня бомба, не тол. Я ведаў, на што іду, што маглі страляць". Ён сказаў: "Вось менавіта гэта я і хацеў у вас удакладніць: ці ведалі вы, што магло быць?" Потым вечарам міліцыянты мне ўжо казалі: "Ведаем мы цябе, ты — мастак Пушкін. Прайшло паведамленьне". Мяне адпусьцілі да суда, я вярнуўся у Бобр на начной электрычцы.

**Запісала**
**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

# Каб не аслаблі лейцы

## *Рэаліі нашага жыцьця*

### 1.

5 сакавіка 1996 году Варанцоў Уладзімір Піліпавіч, 67 гадоў, жыхар г. Чавусы Магілёўскай вобласьці, вяртаўся дамоў ад свайго даўняга і добрага сябра. Настолькі даўняга і добрага, што сябры крыху выпілі. Ну, можа, па келіху-другому, а можа, і па трэцяму... Словам, норму вытрымалі. І вось Уладзімір Піліпавіч у прыемным настроі вяртаўся дадому.

Было ўжо цёмна і бязлюдна. Насустрач яму выйшлі два міліцыянты. Спынілі і даволі груба загадалі ісьці за імі. Уладзімір Піліпавіч зацікавіўся: куды, навошта і за якія грахі? На што атрымаў універсальны адказ: даведаесься... у медвыцьвярэзьніку.

Тут падышоў знаёмы Варанцова і стаў прасіць за яго. Маўчы, адказалі яму міліцыянты, а то і цябе прыхопім да пары, калі шмат гаварыць будзеш. Чалавек рызыкаваць ня стаў... Тады Варанцоў прад'явіў свой апошні "козыр": вунь мой дом — адсюль відаць, 200 метраў усяго, адпусьціце, і я ціха і непрыкметна дайду. Аднак гэта не падзейнічала. І Уладзімір Піліпавіч здаўся, добра, вядзіце ў сваю каталажку, бо нічога вам не дакажаш. Міліцыянты, пакуль вялі старога ў выцьвярэзьнік, вельмі настойліва цікавіліся: ці ёсьць у яго грошы? Не пісталет. Не нож, а грошы.

У выцьвярэзьніку Уладзімір Піліпавіч зноў пачаў прасіцца, каб адпусьцілі. Сорамна, маўляў, старому. Стольнікі гадоў пражыў і нічога ніякага. Што людзі падумаюць... Зноў не дапамагло. Тут трэба яшчэ раз нагадаць, што Варанцову было не 17, а 67 год, здароўе, мякка кажучы, не тое. І таму яму ад гэтых незапланаваных перажываньняў стала дрэнна. Ён далікатна паскардзіўся на хворае сэрца і папрасіў аказаць медыцынскую дапамогу.

На гэта міліцыянты толькі пасьмяяліся яму ў твар і загадалі распранацца, пардон, да ніжняй бялізны. Потым штурхнулі, голага і босага, у камеру з ледзяной падлогай.

А праз паўтары-дзьве гадзіны зьмілаcorrelацьвіліся і адпусьцілі.

Вось тут адразу і ўзнікаюць пытаньні юрыдычнага характару. Калі так хутка адпусьцілі, дык навошта было затрымліваць увогуле? Няўжо, каб распрануць і праверыць кішэні? Калі так хутка адпусьцілі, дык за што тады выпісалі штраф? Не хапала да выкананьня плану адной затрыманай чалавека-адзінкі?

### 2.

Уладзімір Піліпавіч, трэба аддаць яму належнае, справу так не пакінуў. А таму далей падзеі разьвіваліся наступным чынам.

Варанцоў зьвярнуўся ў свой райвыканкам, у раённую пракуратуру са скаргай. Потым – у абласную пракуратуру і двойчы – у рэспубліканскую. Уладзімір Піліпавіч пажадаў атрымаць адказы на свае пытаньні. Першае: ці мае міліцыя права затрымліваць старога чалавека, які хоць і знаходзіцца ў лёгкай ступені ап'яненьня, але цьвёрда трымаецца на нагах, ідзе дадому па бязьлюднай вуліцы, нікому не перашкаджаючы?

Другое: чаму 67-гадоваму чалавеку, які даведзены да нервовага зрыву, адмоўлена ў медыцынскай дапамозе? Трэцяе: ці маюць права супрацоўнікі міліцыі кідаць старога, хворага чалавека ў ледзяную камеру, прычым, без медыцынскага агляду(!), што патрабуе інструкцыя?

І, нарэшце, чацьвёртае: ці павінна міліцыя выдаваць затрыманаму якінебудзь дакумент-рахунак, у якім пазначана, за што ў яго ўтрыманыя грошы? (Варанцоў ніякага дакументу не атрымаў).

Сказаць, што Уладзіміру Піліпавічу ніхто нічога не адказаў, што важныя дзяржаўныя органы грозна прамаўчалі, не скажаш. Напрыклад, у выніку вельмі карпатлівага расьсьледваньня інцыдэнту, Магілёўская абласная пракуратура высьветліла, што "вы сапраўды... былі затрыманыя работнікамі міліцыі Чавускага РАУС у сувязі з тым, што знаходзіліся ў грамадзкім месцы ў нецьвярозым стане. Факт вашага ап'яненьня пацьвярджаецца работнікамі міліцыі Прусянковым, Сухаваравым, Церамавым, а таксама сьведкам Кабаньковым А. П. У дзяжурнай частцы Чавускага РАУС вы былі агледжаныя фельчарам Каханоўскай і ў сувязі з тым, што знаходзіліся ў сярэдняй ступені ап'яненьня, былі змешчаныя ў палату выцьвярэзьніку".

Што тут уражвае? Варанцоў не адмаўляецца, што выпіў, тым больш, "сухога закону" у нас у краіне пакуль няма. Ён іншага дабіваецца. Яму вельмі цікава, чаму з ім абышліся, як са злачынцам. Таксама ж яму хочацца даведацца, за што яго прынізілі без усялякіх на тое падставаў. А пракурор Багуслаўскі даказвае Варанцову, што ён быў п'яны і за гэта яго "зьмясьцілі ў палату".

Гэта падобна на размову глухога з нямым.

### 3.

Прыкладна гэтаксама, як і абласная, адказала Варанцову і рэспубліканская пракуратура. Тагачасны намесьнік генпракурора І.Сашчэнка растлумачыў Уладзіміру Піліпавічу, што "у адпаведнасьці з п.18 загада МУС СССР № 106 ад 30. 05. 85, які дзейнічае на тэрыторыі РБ дагэтуль... у медыцынскі (!) выцьвярэзьнік дастаўляюцца асобы, якія знаходзяцца на вуліцах, у скверах, парках, вакзалах, аэрапортах і іншых грамадзкіх месцах у п'яным выглядзе, які прыніжае чалавечую годнасьць і грамадзкую маральнасьць".

Таксама паведамлялася, што "вы знаходзіліся на вуліцы Фрунзе ў г. Чавусы ў сярэдняй ступені ап'яненьня, хісталіся з боку ў бок, перашкаджалі праходзячым грамадзянам". Добра, усё правільна. Праўда, "перашкаджаць праходзячым грамадзянам" Уладзімір Піліпавіч ніяк не мог па прычыне

*(Працяг на стар. 6)*

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*27 сьнежня* з-пад варты пад падпіску аб нявыезьдзе быў вызвалены былы рэктар Гомельскага медінстытуту Юры Бандажэўскі, арыштаваны вясной 1999 г. Рашэньне аб зьмяненьні меры стрыманьня было прынятае сьледствам у сувязі са станам здароўя Ю.Бандажэўскага. Афіцыйная прычына арышту — атрыманьне хабару ад абітурыентаў. Між тым грамадзкасьць зьвязвала арышт Ю.Бандажэўскага з яго навуковымі дасьледваньнямі. Ю.Бандажэўскі даказваў, што найгоршыя наступствы чарнобыльскай катастрофы — наперадзе, у той час як афіцыйныя ўлады спрабуюць пераканаць людзей у тым, што жыцьцё ў забруджанай радыяцыяй зоне не зьяўляецца небясьпечным.

*27 снежня* ў офісе Праваабарончага Цэнтру "Вясна" адбылася прэзентацыя арганізацыйнага камітэту новай грамадзкай арганізацыі. Гэта арганізацыя жанчынаў, родныя якіх былі рэпрэсаваныя па палітычных матывах. У арганізацыйны камітэт уваходзяць: маці Вячаслава Сіўчыка — аднаго з лідэраў БНФ, жонка старшыні БНФ Вінцука Вячоркі, а таксама жонкі зьняволеных дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава, дачка зьняволенага міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава. Жанчыны маюць намер падаць дакументы на рэгістрацыю сваёй арганізацыі. Галоўная мэта новай арганізацыі – абарона правоў палітычных рэпрэсаваных і іхніх родных.

Праваабарончы Цэнтр "Вясна" узяўся дапамагаць жанчынам у падрыхтоўцы дакументаў, рэгістрацыі і кансультацыях ствараемага аб'яднаньня.

*30 сьнежня* адбылася чарговая сустрэча бацькоў, дзеці якіх загінулі 30 траўня ў пераходзе на станцыі метро "Няміга". Старшыня цэнтру сацыяльнай дапамогі "Няміга-99" Натальля Навакоўская (маці Аляўціны Навакоўскай, 1985 г.н.) паведаміла, што тэрмін афіцыйнага сьледзтва па факце расьсьледваньня прычынаў трагедыі працягнуты да канца лютага 2000 г.

З *1 студзеня* ўступіў у сілу закон "Аб падатку на дабаўленую вартасьць", згодна з якім прадпрымальнікі павінны плаціць падатак на дабаўленую вартасьць двойчы: на мяжы пры ўвозе тавару ў памеры 20 адсоткаў ад яго кошту і яшчэ 20 адсоткаў ад сумы таваразвароту за месяц. Як заявіў кіраўнік саюзу гродзенскіх прадпрымальнікаў Валеры Леванеўскі, на Рэспубліканскай нарадзе кіраўнікоў прадпрымальніцкіх структураў прынятае рашэньне аб правядзеньні пачынаючы з 1 лютага агульнарэспубліканскага страйку прыватных прадпрымальнікаў.

З *8-га па 9-га студзеня* ў горадзе Барысаве павінен быў адбыцца турнір па міні-футболе пад лозунгам "Футбол супраць расізму". На турнір былі запрошаныя каманды Маладога фронту з Мінску, каманда ТБМ "Ліцьвіны" з Жодзіна і іншыя. Увечары 6 студзеня дырэктар школы, у спартыўнай зале якой павінен быў праходзіць турнір, патэлефанаваў арганізатарам і паведаміў, што правядзеньне турніру немагчымае ў сувязі з аварыяй электрычнай сеткі. Па словах аднаго з арганізатараў Зьміцера Бародкі, арганізатары распрабавалі правесьці прыватнае расьсьледваньне, але ў памяшканьне залы іх не пусьцілі. Арганізатары зрабілі выснову, што загад на забарону правядзеньня турніру паступіў ад мясцовых уладаў. Стала вядома, што 8-9 студзеня ў г. Барысаве дырэктарам ва ўсіх школах было забаронена праводзіць любыя спартовыя спаборніцтвы нават на прышкольных спартовых пляцоўках на вольным паветры.

*9 сьнежня* ў Вялікім тэатры Расіі адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэньня расійскай незалежнай прэміі за вышэйшыя дасягненьні ў літаратуры і мастацтве за 1999 г. "Трыумф". Лаўрэатам прэміі стаў і сусьветна вядомы беларускі празаік Васіль Быкаў, які па палітычных матывах быў вымушаны пакінуць Беларусь і зараз жыве і працуе ў Фінляндыі.

*11 студзеня* ў судзе Савецкага раёну г.Мінску адбыўся суд над журналістам і праваабронцам Валерыем Шчукіным, які быў затрыманы пасьля акцыі 8 сьнежня каля рэдакцыі газеты "Народная воля". На судзе В.Шчукін заявіў, што ўдзельнічаў у акцыі як журналіст і грамадзкага парадку не парушаў. Сьведкі, у якасьці якіх выступалі супрацоўнікі міліцыі, блыталіся ў паказаньнях. Адзін з іх сьцьвярджаў, што затрымаў В.Шчукіна на плошчы Якуба Коласа. Судзьдзя Іна Шэйка нагадала яму, што ў сваім рапарце сьведка ўказаў плошчу Перамогі, супрацоўнік міліцыі адказаў: "Ну, тады атрымліваецца, што там". Па словах адваката Тацяны Вардомскай, відавочна, што "сьведкі" ня толькі не затрымлівалі Шчукіна ў той дзень, але і нават не прысутнічалі на акцыі. Судзьдзя Іна Шэйка вынесла ў адносінах В.Шчукіна апраўдальную пастанову.

*11студзеня* судзьдзя Першамайскага суда г.Мінску Л.Ясановіч перанёс суд над вядучым праграмы "Рэзананс" Беларускага дзяржаўнага тэлебачаньня А.Зімоўскім на 9 лютага. Нагадаем, справа гэтая ўзбуджаная паводле зыску пенсіянеркі, актывісткі апазіцыі Веры Церлюкевіч, якую абразілі выказваньні А.Зімоўскага на адрас удзельнікаў "Маршу Свабоды" 17 кастрычніка мінулага году.

*У пачатку студзеня* Вярхоўны Савет РБ 13-га скліканьня зьвярнуўся да прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы з просьбай прадаставіць інфармацыю пра магчлівае знаходжаньне на тэрыторыі Украіны Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі. Зварот выкліканы заявай А.Лукашэнкі, што дзеячы апазіцыі, якія зьніклі летась пры загадкавых абставінах, знаходзяцца на тэрыторыі Украіны.

*У пачатку студзеня* Гомельскі аблвыканкам прыняў пастанову пад назовам "Парадак прадастаўленьня інфармацыі СМІ кіраўніцтвам і структурнымі падразьдзяленьнямі аблвыканкама". Паводле яе абмяжоўваюцца кантакты супрацоўнікаў аблвыканкаму з журналістамі, у прыватнасьці гаворыцца, што кіраўніцтва аблвыканкаму будзе выступаць перад прадстаўнікамі СМІ выключна ў парадку пэўнай чарговасьці. Шараговым работнікам аблвыканкаму ўвогуле забароненыя ўсялякія кантакты з прэсай. Старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Беларускай асацыяцыі журналістаў Анатоль Гатоўчыц лічыць, што гэты дакумент накіраваны найперш супраць журналістаў незалежных выданьняў.

# Каб не аслаблі лейцы

(Пачатак на стар. 5)

адсутнасьці на вуліцы апошніх. Аднак намесьніку генпракурора з Мінску, пэўна, лепш відаць, што і як было. Хаця, каб скласьці такую "грамату", быць намесьнікам зусім ня трэба. Яе вам "намалюе" любы ўчастковы за пару хвілінаў. Такім чынам, вышэйстаячая інстанцыя нічога адметнага ў гэтым выпадку ня ўбачыла.

Уладзімір Піліпавіч, вядома ж, нічога не дабіўся. Яго перапіска з інстанцыямі сама сабою спынілася. Чаго ён дабіўся, дык гэта асаблівай пільнасьці да сваёй асобы з боку мясцовых "органаў".

Хаця сама спроба выклікае павагу. Бо ў нас прынята некалькі інакш. У тым сэнсе, што плюнулі ў твар – выцерся і пайшоў далей. Усё ж часы, калі маглі не толькі плюнуць, а і стрэліць (у патыліцу), не такія ўжо і далёкія і яшчэ не забытыя.

Выпадак гэты даўні, але ад таго ён сваёй актуальнасьці ня страціў. Ён добра ўкладваецца ў схему ўзаемаадносінаў лукашэнкаўскіх уладаў і народу, якім яны кіруюць. Дастаткова прыгадаць пра той жа "Марш Свабоды". У прынцыпе, там адбылося тое ж, што і са сьціплым пенсіянерам Уладзімірам Піліпавічам Варанцовым. Ну, магчліва, толькі больш жорстка, больш адкрыта, больш нахабна. Аднак, што называецца, ідэалагічны падмурак аднолькавы: татальная зьнявага да асобна ўзятага чалавечага жыцьця.

І атрымліваецца, што асноўная роля карных (менавіта карных, а ня проста міліцэйскіх) органаў у нашай "свабоднай і дэмакратычнай" дзяржаве – гэта роля пудзіла. Трэба як мага мацней напалохаць чалавека, прынізіць, ператварыць яго ў маўклівую жывёлу. Каб ня ўзьнікала пытаньняў кшталту "чаму мы так дрэнна жывем" альбо "хто ў гэтым вінаваты".

І палохаць неабходна кожны дзень, кожную хвіліну, маладога і старога. Каб не аслаблі лейцы...

**Андрэй СЯРЖАН**

# Звычайная «практыка»...

(Пачатак на стар. 3)

за калегу. Міліцэйскі аператыўнік Лявіцкі нават лічыць, што Асінскі ўдарыў Кунцэвіча нагою «у галаву», бо «спосабен». Падсуднаму стваралі імідж нейкага «трэніраванага адмарозка», што цалкам упісваецца ў прапанаванае рэжымам прапагандысцкае клішэ.

Палова сьведкаў-супрацоўнікаў МУС распавялі, што прыйшлі забясьпечваць парадак на шэсьці апазіцыі ў цывільным адзеньні і стаялі, зьмяшаўшыся з натоўпам (так званыя «ціхары»). Са словаў гэтых «сьведкаў» бачны падразьдзел «ціхароў» на «группы изъятия», «связистов» ды іншых; апаратары з аховай у 2-3 амонаўцы сьціпла завуцца «группой документирования при группе изъятия».

Суд адхіліў хадайніцтва адваката аб допыце сьведкі Зьміцера Касьпяровіча: пракурор Чырын настойваў на тым, што «усё бачна з відэастужкі, зацягваць працэс няма неабходнасьці». У сваім выступе абвінаваўца назваў Яўгена Асінскага актыўным удзельнікам несанкцыянаванага шэсьця, які «небясьпечны для грамадзтва». Пракурор С. Чырын ня верыць Асінскаму, бо той, маўляў, не памятае нават, якога тыпу дубінка была ў пацярпелага Кунцэвіча і дзе ў яе месьцілася ручка. (Вось, аказваецца, што трэба ведаць апазіцыі – класіфікацыю сьпецсродкаў!). Пракурор прасіў для падсуднага 2 гады зьняволеньня ўмоўна з прыцягненьнем да прымусовай працы у месцах, вызначаных МУС – так званай «хіміі». Адвакат Натальля Тарасюк засяродзіла ўвагу на зацікаўленасьці большасьці сьведкаў на працэсе, а таксама на цэлым шэрагу парушэньняў закону ў працэсе сьледзтва. Напрыклад, апазнаньне Асінскага па фотаздымку праходзіла без складаньня пратаколу, а вочныя стаўкі ніяк не адпавядаюць нормам крымінальна-працэсуальнага кодэксу. Ня можа служыць доказам віны відэазапіс падзеяў, які зьяўляецца копіяй, а не арыгіналам. Да таго ж, да справы гэтая стужка далучана з парушэньнямі фармальнасьцяў: пратакол ня ўтрымлівае зьвестак пра асобы, якія рабілі здымкі. І самае галоўнае — амаль усе допыты ў часе сьледзтва праводзіліся рознымі людзьмі, ніводзін з якіх не прымаў да вытворчасьці крымінальную справу Я.Асінскага. Сьледзтва як бы ішло, але сьледчай групы афіцыйна пры гэтым не існавала ў прыродзе. Але згодна з артыкулам 125 КПК, сьледчыя дзеяньні ня меў права выконваць ніхто з супрацоўнікаў міліцыі, імёны якіх стаяць у пратаколах допытаў сьведкаў і падсьледнага. Пастанова аб стварэньні сьледчай групы зьявілася ў матэрыялах справы толькі пасьля 31 жніўня 1999 года як рэакцыя на заўвагі адваката аб незаконнасьці такіх дзеяньняў. Адвакат знайшла ў справе сьцёртыя старонкі і перакрэсьленыя лічбы пасьля старонкі 12-й. Нечая рука яўна заднім чыслом «даводзіла да ладу» матэрыялы сьледзтва.

Абаронца Асінскага адзначыла таксама, што артыкул 186. 3 КК мае на ўвазе прыцягненьне да адказнасьці сама менш 2-х асобаў – і праўда, якія «калектыўныя дзеяньні» мог падсудны зьдзяйсьняць адзін на мінскіх вуліцах? «Па гэтым артыкуле пакараньню падлягаюць актыўныя ўдзельнікі падзеяў, — заявіла Н. Тарасюк, — але з паказаньняў усіх сьведкаў вынікае, што мой падабаронны не крычаў, не лаяўся, не прарываў кардон – увогуле нічым не вылучаўся».

Што тычыцца «хуліганскага» артыкулу абвінавачваньня, то фармулёўка дзеяньняў Я. Асінскага ў абвінаваўчым заключэньні не пацьвярджаецца паказаньнямі сьведкаў, нават міліцыянтаў, бо, згодна з пастановай пленуму Вярхоўнага суда аб злосным хуліганстве, павінна быць сфармулявана і даказана менавіта непавага злачынцы да грамадзтва. Аднак атрымліваецца, на думку адваката, што гаворка ідзе не пра грамадзтва і не «грубае парушэньне грамадзкага парадку» Я.Асінскім, а ўсё-ткі пра пацярпеласьць канкрэтнага міліцыянта. Адвакат лічыць, што неабходна перакваліфікаваць артыкул абвінавачаньня яе падабароннага з 201ч. 2 на 185 ч. 2. Н. Тарасюк прасіла суд не пасылаць падсуднага на прымусовыя работы ў вызначаныя МУС месцы, паколькі той мае пастаянную працу і добрую сьпецыяльнасьць. Абвінаваўчы бок, аднак, стаяў на адлічэньні 20 адсоткаў заробку падсуднага ў дзяржбюджэт любым шляхам і ўсё той жа «небясьпечнасьці» ды «цынічнасьці» Яўгена Асінскага.

Нельга не пагадзіцца з адвакатам Н. Тарасюк: нават удары, нанесеныя «групай захопу» Асінскага пры затрыманьні яго ў метро пасьля шэсьця, ужо неадэкватныя ягонаму дзеяньню ў час сутычкі з міліцыяй. Відаць, рэжым узяў сабе за тактыку «браць» і караць крымінальным перасьледам аднаго чалавека з тысячаў удзельнікаў, каб запалохаць іншых. Пару гадоў таму гэтаксама (толькі з даўжэйшым тэрмінам зьняволеньня) пакаралі Вадзіма Кабанчука. Той таксама абараняў на апазіцыйнай акцыі людзей ад кінутых на іх міліцыянтаў. «І ня думайце бараніцца і бараніць іншых», — кажа такім чынам рэжым усім нам. У выпадку з Кабанчуком цікавы лёс "пацярпелага" Калакольчыкава: кажуць, яго выгналі з міліцыі, пасьля чаго ён сьпіўся...

«Вы радыя, што вашага крыўдзіцеля пакараюць?» – запытала я гэтым разам пацярпелага Кунцэвіча. Ён паглядзеў на мяне ўважліва і адказаў: «Рады?.. Што за пытаньні вы мне задаеце?» Падобна, чалавек гэты і пацярпелым быў «па доўгу службы». Па загаду, значыць...

**Тацяна СЬНІТКО**



**На здымку з архіву "Вясны", які быў зроблены 27 ліпеня, можна ўбачыць, што дубінкі ў міліцыянтаў былі ў руках...**

***P.S.*** **18 студзеня па крымінальнай справе Яўгена Асінскага быў вынесены прысуд. Суд прыгаварыў Я.Асінскага да двух гадоў папраўчых работ па месцы асноўнай працы з утрыманьнем дваццаці адсоткаў заробку.**

## Валеры ШЧУКІН

# Турэмныя універсітэты

***2000 год — апошні год другога тысячагодзьдзя, пачаўся для праваабаронцы Валерыя Шчукіна чарговым, 21-м па ліку палітычным судовым працэсам, які ўзбуджаны супраць яго таталітарным рэжымам Лукашэнкі. У судзе Савецкага раёну г.Мінску гэты судовы працэс для В.Шчукіна ўжо пяты. Гэта і трэцяя сустрэча палітпадсуднага В.Шчукіна і судзьдзі І.Шэйка па розныя бакі судовых "барыкадаў". Папярэднія былі ў красавіку 1998 году і траўні 1999 году. Іна Валер'еўна на гэты раз судзіць журналіста Шчукіна за зьяўленьне сярод беларускіх грамадзянаў, абураных дзеяньнямі Лукашэнкі, які падпісаў антыканстытуцыйную дамову з Расіяй.***
***Роўна год таму, 11 студзеня 1999 году, судзьдзя Савецкага раёну А.Ганчарык за такое ж зьяўленьне праваабаронцы сярод пікетчыкаў адправіў Валерыя Шчукіна ў турму на 10 сутак. Валеры Аляксеевіч прабыў тады на волі менш за тры тыдні, бо перад гэтым адсядзеў 15 сутак за падтрымку акцыі пратэсту прафсаюзаў. Паводле "наведваньняў" шырокавядомага ў колах праваабаронцаў мінскага сьпецпрыёмніка-разьмеркавальніка на вул. Акрэсьціна В.Шчукін напісаў нататкі. На жаль, летась яны надрукаваныя не былі. Аднак, як вы пераканаецеся, за час, што прайшоў з тых дзён, нататкі ніколькі не састарэлі.***
***І таму "Права на волю" пачынае іх друкаваць.***


Валеры ШЧУКІН.

### Тэрмін тэрміну розьніца...

По беларускім законе максімальны тэрмін утрыманьня зьняволенага за кратамі без суда складае паўтары гады. Пасьля гэтага абвінавачваемы, які знаходзіцца ў СІЗА, павінен быць вызвалены без ніякіх умоваў і нават без падпіскі аб нявыезьдзе.

Аднак дэ-факта ў Беларусі заканчэньне аб'яўленага пракурорам тэрміну ўтрыманьня пад вартай не зьяўляецца для адміністрацыі сьледчага ізалятару падставай дзеля выпуску падсьледнага на волю. За калючым дротам, бывае, арыштанта трымаюць па два і больш гады. Патрабаваньні Канстытуцыі і Крымінальна-працэсуальнага кодэксу проста ігнаруюцца.

З акрэсьцінскага ж сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку пасьля заканчэньня тэрміну звычайна выпускаюць "хвіліна ў хвіліну", у час, што ўказаны ў пастанове суда. Бываюць, праўда, і выключэньні. Могуць, напрыклад, пакінуць да шасьці гадзінаў раніцы "кліента", тэрмін зьняволеньня якога заканчваецца ноччу. Наконт правамоцнасьці гэтых дзеяньняў можна паспрачацца, але, прынамсі, яны лагічна вытлумачальныя. А вось датэрміновая выдача грамадзяніна, які знаходзіцца па пастанове суда ў сьпецпрыёмніку пад арыштам — ёсьць прамое парушэньне Канстытуцыі і закону. І здараецца гэта вельмі часта.

Мае сукамернікі распавядалі шмат выпадкаў, як міліцыянты забіралі пасаджанага імі ў сьпецпрыёмнік западозранага ў зьдзяйсьненьні злачынства чалавека (фармальна на гэта маецца пастанова суда пра арышт за нейкае адміністратыўнае правапарушэньне), а потым канваіравалі яго да судзьдзі і вярталі назад у камеру з новаю пастановаю на новы тэрмін, зноў жа за нейкае адміністратыўнае правапарушэньне.

Да прыкладу, з дэпутатам Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Паўлам Знаўцам судова-паліцэйская "мафія" зрабіла падобную "аперацыю" ажно тройчы запар. За адзін "прысест" ён атрымаў два разы па пяць сутак арышту і адзін раз штраф. У выніку дэпутат, які першапачаткова быў зьмешчаны ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік усяго на пяць сутак і ня меў ад адміністрацыі ніякіх заўвагаў на паводзіны, адсядзеў у камеры карцэрнага рэжыму 15 сутак.

З палітзьняволеным Вячаславам Сіўчыкам, які быў пакараны ўладамі за ўдзел у прафсаюзнай акцыі пратэсту супраць зьбядненьня працоўных, міліцыянты паступілі такім чынам. За гадзіну да заканчэньня тэрміну гвалтам перавезьлі яго ў Маскоўскі РАУС, адкуль і выпусьцілі на волю. Улады проста захацелі сарваць урачыстую сустрэчу вязьня сябрамі каля варотаў акрэсьцінскага сьпецпрыёмніку.

### Супрацьпраўная прымусовая дастаўка ў суд.

По мяне міліцэйскі нарад з Цэнтральнага РАУСу прыбыў таксама за тры гадзіны да заканчэньня тэрміну арышту. Па законе міліцыянты маюць права затрымліваць грамадзянаў толькі дзеля спыненьня зьдзяйсьняемага імі адміністратыўнага правапарушэньня альбо дзеля вызначэньня асобы ці складаньня пратаколу (арт. 239 КаАП). Усялякая іншая спроба затрыманьня — незаконная. Аднак на той момант я нічога не парушаў, белабароды мой твар міліцы добра вядомы, запатрабаваны пратакол быў складзены яшчэ да зьмяшчэньня ў сьпецпрыёмнік і падпісаны мною.

І таму распараджэньне начальніка Цэнтральнага РАУС пра выдачу арыштанта Шчукіна (гэта значыць мяне), які адбывае тэрмін зьняволеньня па пастанове суда Партызанскага раёну за адміністратыўнае правапарушэньне, было неправамоцным. Законнае распараджэньне пра выдачу арыштаванага можа паступіць ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік толькі ад судзьдзі альбо пракурора. А сьледчы правамоцны забраць толькі арыштанта, які ўтрымліваецца ў сьледчым ізалятары.

Тым ня менш адміністрацыя сьпецпрыёмніку пайшла на парушэньне закону і выдала мяне ў "лапы" міліцыянтаў Цэнтральнага РАУС. Адносіны гэтага райаддзела да мяне, апазіцыйнага журналіста, непрыязныя здаўна. Менавіта ў Цэнтральны РАУС даставілі мяне, зьбітага да страты прытомнасьці, пасьля вядомай красавіцкай расправы ўладаў з незадаволенымі людзьмі на вуліцы Камуністычнай у г. Мінску ў 1997 годзе. Менавіта ў Цэнтральны РАУС прыцягнулі мяне міліцыянты, якія пасярод ночы ўварваліся ў маю спальню і выцягнулі з ложку. Менавіта там мяне білі голага, ляжачага на падлозе, каванымі міліцэйскімі чаравікамі, стаўшы ў кола вакол мяне. Пракуратура гэтыя і папярэднія і іх дзеяньні не палічыла нават выпадкам злачынства.

*(Працяг будзе)*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna 96@open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна"*